# НАВІНЫ



Акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў кастрычніку 1979 года ● № 16(745) ● 29 красавіка 1994 г. ● Цана 25 руб.


**ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА**

## ЦІ ТРЭБА ПАСПЯШАЦЬ НА СУСВЕТНЫ РЫНАК?

З цікавасцю я прачытала артыкул У. Траццякова «Ваша распрацоўка ацэнена ў 10.000 долараў. Вось вам адпаведны сертыфікат» у нумары 12. Трэба прызнацца, у наш смутны час ідэя БелІР успрымаецца як «прамень святла ў цёмным царстве». Таму хацелася б, каб тыя праблемы, што вылучаюцца, былі больш дасканала распрацаваныя. Асабліва ў сувязі са «звышзадачай» — выхадам на Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці.

Перш за ўсё наконт дэфініцыі. Пытанне, узнятае ў ёй, сапраўды складанае і нявырашанае, прама звязанае з іншым нявырашаным пытаннем — што такое якасць працы і як сувымераць яе з вынікамі? Але вызначэнне паняцця «інтэлектуальная ўласнасць» чамусьці падмяняецца ў артыкуле вызначэннем аб'екта ўласнасці. А гэта — іншая праблема.

Па-другое, чаму, як вынікае з артыкула, манаграфія — прадукт інтэлектуальнай працы і ўласнасць, а раман — не? Дзе тут межы, чым яны абумоўлены?

Па-трэцяе, калі інтэлектуальнай уласнасцю з'яўляецца прадукт, які мае рыначную вартасць і рынак збыту, то фундаментальныя распрацоўкі ніколі не будуць інтэлектуальнай уласнасцю. А без іх не будзе ні прыкладных прадуктаў, ні прагрэсу ўвогуле.

Сумненняў і пытанняў, як відаць, нямала. У тым ліку і такое: ці варта паспяшаць на «сусветны рынак»? Ці не трэба лепш спачатку сабраць, натхніць і «задзейнічаць» наш, на шчасце, немалы інтэлектуальны рэсурс, пакуль ён не згубіўся канчаткова?

Элеанора ЛУТОХІНА,
доктар эканамічных навук.

**У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ**

У Інстытуце фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў вядуцца комплексныя работы па вывучэнню звышправоднасці. Навуковая група ў складзе дырэктара інстытута М. М. Аляхновіча (кіраўнік), навуковага супрацоўніка С. В. Шыраева і малодшага навуковага супрацоўніка Л. А. Іголкінай трэці год працуе над атрыманнем і даследаваннем звышправодных монакрышталяў. Ужо атрыманы добрыя вынікі на ўзроўні сусветных стандартаў. У перспектыве яны дазволяць атрымаць новыя тэхналогіі на базе звышправодных матэрыялаў.



На здымку: навуковы супрацоўнік С. В. Шыраеў і малодшы навуковы супрацоўнік Л. А. Іголкіна праводзяць чарговы эксперымент над звышправоднымі монакрышталямі.

Фота М. БУДЧАНІНА.

*АНТОН МАТУСЕВІЧ:*

## «Навукоўцы востра адчуваюць сваю сацыяльную неабароненасць»

Выступаючы на І канферэнцыі прафсаюза работнікаў АНБ, старшыня рэспубліканскага камітэта прафсаюза доктар юрыдычных навук А. У. Матусевіч асноўным акцэнтам свайго даклада вызначыў сацыяльна-эканамічнае становішча членаў калектыву навуковай установы.

З часу канферэнцыі прайшло больш як паўтара месяцы. Тэрмін, вядома, вельмі нязначны для значных змен. Але цалкам магчымы для таго, каб намеціліся хаця б першыя прыкметы, што паказвалі б: так, надзённыя, жыццёвыя праблемы, крытычны стан, у якім знаходзяцца сёння акадэмія і кожны яе супрацоўнік, знайшлі ўвагу і разуменне ў кампетэнтных, як кажуць, колах.

*— Ці так гэта, Антон Уладзіміравіч? Як вы ацэньваеце рэзананс з боку прэзідыума АН і беларускага ўрада на сказанае падчас канферэнцыі?*

— Водгук, вядома, ёсць. Дастаткова заўважыць, што Агульны сход акадэміі не прайшоў міма выказаных на канферэнцыі сур'ёзных высноў. І ў прамове старшыні Саўміна В. Ф. Кебіча, які ўдзельнічаў у сходзе, і дакладзе прэзідэнта АНБ Л. М. Сушчэні, па сутнасці, была прызнана справядлівасць прафсаюзных патрабаванняў адносна павышэння жыццёвага ўзроўню навукоўцаў і работнікаў акадэмічнай інфраструктуры, стварэння нармальных умоў для эфектыўнай навуковай работы. Аднак больш такой канстатацыі нічога станоўчага сказаць не магу.

Між тым у рэспубліцы навуковая, тэхналагічная, інавацыйная сферы дзейнасці — у заняпадзе. Мы падыходзім да спусташэння створаных раней навуковых задзелаў, найбольш кваліфікаваныя і актыўныя спецыялісты перацякаюць у іншыя структуры, практычна спынены прыток у навуку выпускнікоў вну, зніжаецца ўзровень навукова-даследчых работ з-за мізэрнасці сродкаў для набыцця абсталявання, надыходзіць інфармацыйная ізаляцыя ад сусветнай навукі.

Заробак у навукоўцаў нізкі і абсалютна, і адносна. Навуковыя работнікі трапілі ў лік найменш сацыяльна абароненых груп насельніцтва. Не дзіўна, што за апошнія 2,5 гады колькасць работнікаў АН скарацілася ледзь не ўдвая.

*— У вашым дакладзе на прафсаюзным форуме прагучала, як мне здалося, негатыўная інтанацыя з той нагоды, што ініцыятыўныя і кваліфікаваныя спецыялісты падаюцца ў прадпрымальніцтва і хутка там прагрэсіруюць. Што ў гэтым благога? Такое, гэтак мовіць, спалучэнне навукі з хуткім укараненнем яе здабыткаў у практыку якраз на руку тэхнічнаму прагрэсу. Славуты Эдысан на сваіх тэхнічных адкрыццях не толькі зарабіў мільёны, але, арганізуючы вытворчасць для рэалізацыі сваіх ідэй, сядзейнічаў хутчэйшаму развіццю чалавечай цывілізацыі. А рускі навуковы геній Ламаносаў з яго заводам па вытворчасці смальты?*

— Тое, што навукоўцы хутка прагрэсіруюць, не выклікае здзіўлення. Наадварот, гэта паказвае якасць навуковых кадраў. На жаль, насуперак Ламаносаву і Эдысану, яны, ідучы з навукі, забываюць пра яе. Займаюцца чыста прадпрымальніцкай дзейнасцю. У выніку падае агульны ўзровень навукова-тэхнічнага патэнцыялу краіны. Гэтаму патурае і заканадаўства, якое складзена такім чынам, што хуткія і вялікія заробкі ў асноўным дае гандаль.

Акрамя таго, «перабежчыкі» у прыватным парадку не здольны стварыць дастатковую базу для ажыццяўлення навукова-тэхнічнай дзейнасці.

Усё гэта было б яшчэ паўбяды. Сапраўдныя страты заключаюцца, па-першае, у тым, што былыя навукоўцы прыхватызуюць і прадаюць здабыткі, атрыманыя ў АН з дапамогай дзяржаўнага абсталявання, прэпаратаў і г. д. Прычым гэта часцяком вынікі не толькі іх работы, а і калег. Выгаду ж маюць толькі самі «перабежчыкі». І яшчэ. Наўрад ці можна спадзявацца, што гэтыя людзі зноў зоймуцца навукай, будуць крыніцай новых адкрыццяў і вынаходак. Атмасфера прадпрымальніцтва іншая.

*— З пераходам да рынку, да прыватызацыі і раздзяржаўлення значна большую вастрыню набыла праблема захавання індывідуальнай уласнасці.*

— Так, яна невыпадкова выдзелена як адна з ключавых у справаздачы, падрыхтаванай групай экспертаў ААН па выніках аналізу сучаснага стану навукі ў Беларусі. У справаздачы адзначаецца, што звычайнай сталася сітуацыя, калі, пераходзячы з дзяржаўных, скажам, у прыватныя структуры, супрацоўнікі без усякай кампенсацыі зносяць з сабой увесь запас інтэлектуальнай уласнасці. У большасці краін гэта падпадае пад юрысдыкцыю крымінальнага кодэкса. Да таго ж, пазбаўляючы тыя ж дзяржаўныя НДІ матэрыялаў для далейшых даследаванняў, «перабежчыкі» наносяць шкоду развіццю і прадпрымальніцтва.

Эксперты ААН зважылі, што краіна нясе шматмільённыя, калі не мільярдныя даларавыя страты з-за адсутнасці сістэмы аховы інтэлектуальнай уласнасці.

*— Што трэба зрабіць, каб мінімізаваць адмоўны для АНБ эфект пераходу навуковых кадраў у недзяржаўныя або змешаныя структуры?*

— Перш за ўсё спыніць адток кадраў, а значыць — звесці да мінімуму яго прычыны: нізкі ўзровень фінансавання АН і ўзмацніць сацыяльна-бытавое забеспячэнне яе супрацоўнікаў.

Вядома, цякучасць кадраў ёсць заўсёды. Але не павінна быць бязладнай уцечкі навуковых вынікаў. Неабходны іх строгі ўлік, вызначэнне дакладных суадносін аўтарскага права і права скарыстання новаўвядзенняў, а таксама дзяржкантроль у гэтай сферы.

*— Хацелася б зразумець сутнасць вашай адмоўнай пазіцыі адносна неабходнасці структурнай перабудовы рэспубліканскай навукі ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі.*

— Натуральна, новая сітуацыя ў Беларусі, яе суверэннасць вымагаюць новых падыходаў ва ўсіх галінах нашага жыцця. І я не супраць пэўных абгрунтаваных змен. Аднак, што тычыцца дэструктурызацыі акадэміі, я прыхільнік аргументаванай, выверанай стратэгіі правядзення гэтага працэсу, а не раптоўнага «натхнення» пры вырашэнні праблемы. Працэс перамен мусіць быць эвалюцыйным, тым больш у арганізацыі фундаментальных даследаванняў. Інакш нам пагражаюць незваротныя страты. Таму нельга рэфармаваць АН без уліку яе месца і ролі ў навукова-тэхнічным патэнцыяле РБ, грамадстве. Я праціўнік не рэформаў, а скараспелых дзеянняў.

*— Вядома, што адноснае павелічэнне ўдзельнай вагі дактароў і кандыдатаў навук у калектыве акадэміі адбылося ў асноўным за кошт скарачэння агульнай колькасці работнікаў. І што тут асабліва засмучае, як вы зазначылі ў дакладзе, катастрафічна зменшыўся прыток свежых навуковых сіл з ліку маладых спецыялістаў.*

— Пацверджу статыстыкай. Калі ў 1980 годзе было прынята 400 маладых людзей, то

(Заканчэнне на 2-й стар.).

*АНТОН МАТУСЕВІЧ:*

# «Навукоўцы востра адчуваюць сваю сацыяльную неабароненасць»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**далей гэтая лічба паступова падала, і ў 1991 годзе папаўненне маладымі навуковымі кадрамі склала 157 чалавек. На наступны год у АН паступіла ўсяго 37, а летась наогул толькі 27 выпускнікоў вну.**

***— Сітуацыя, відавочна, тлумачыцца не толькі зніжэннем прэстыжнасці навуковай работы з-за яе неадэкватнай аплаты, не толькі падзеннем яе грамадскага значэння ва ўмовах эканамічнага крызісу і палітычнай нестабільнасці, не толькі меркантылізацыяй маладзёжнага асяроддзя?***

**— Мяркую, не апошнюю ролю адыгрывае тут тое, што мінскія гарадскія ўлады ўстанавілі за прыём іншагародняга работніка на працу ў акадэмію нечуваную стаўку: 200 (!) мінімальных зарплат. Пры бюджэтным фінансаванні знайсці гэткую суму досыць складана. Ды яшчэ цяжка адказаць загадзя, што з такога маладога выйдзе. Будзе ён акадэмікам, атрымае вучоную ступень або праз год кіне аспірантуру.**

**Карацей кажучы, калі абсалютныя велічыні адтоку кадраў з акадэміі захаваюцца на ўзроўні 1991-92 гадоў, дык пры адсутнасці іх папаўнення маладымі спецыялістамі, к 1999—2000 гадам АНБ спыніць сваё існаванне. Толькі з гэтай прычыны. Навуку і акадэмію, варта паўтарыцца, пакідаюць сёння лепшыя, пакідаюць па ўласным жаданні з-за нізкіх заробкаў, падзення прэстыжу навуковай кар'еры, растучай рызыкі беспрацоўя.**

***— У вашых словах я знайшоў пацвярджэнне свайму далейшаму меркаванню, што і раней фундаментальная навука не была ва ўрада ў фаворы, калі толькі не абяцала вокамгненных ваенных або, прынамсі, палітычных перавag. Клопат пра яе больш дэклараваўся, чым быў адчувальна рэальным. Пагатоў і сёння.***

**— Вы маеце рацыю. У сістэме нацыянальных прыярытэтаў фундаментальная навука не сталася дамінуючай, прыкметна саступаючы не толькі вытворчым, але і асобным невытворчым сферам, напрыклад, дзяржаўнай службе. Мы, работнікі АН, востра адчуваем істотнае зніжэнне рэальнай сацыяльнай абароненасці, усіх паказчыкаў узроўню жыцця: занятасці, умоў працы, даходаў, якасці адпачынку, сацыяльна-бытавой забяспечанасці, словам, зместу працы і быту.**

**Возьмем аплату працы, галоўную крыніцу існавання навукоўцаў. Яна, абумоўленая тарыфікацыяй, яўна не адпавядае ролі і значнасці іх працы. Прытым разрыў паміж ростам даходаў і дынамікай цэн усё больш павялічваецца. Паводле Дзяржкамстата, залетась на 1 працэнт павышэння індэксу цэн і тарыфаў прыпадала 0,83 працэнта росту зарплаты работнікаў бюджэтных галін. Летась нажніцы паміж цэнамі і даходамі павялічыліся яшчэ. Па падліках НДІ цэн Дзяржэканомплана, кошт спажывецкага прадуктовага кошыка на 25.01.94 г. складаў 103 тысячы рублёў. Сярэдняя ж зарплата ў АНБ на 1.02.94 г.— 166,2 тысячы. Вось і пражыві навуковай працай.**

**Становішча навукоўцаў у Расіі, Казахстане, на Украіне па шэрагу паказчыкаў несупастаўна лепш за наша.**

***— Жыццёвы ўзровень у многім вызначаецца зарплатай. Аднак, што называецца, не хлебам адзіным...***

**— Але і дахам над галавой. Дах — адразу пасля хлеба. Можна канстатаваць: Акадэміі навук сёлета наогул не выдзелены сродкі на паляпшэнне жылёвых умоў яе работнікаў. У той час, як патрэбу мае кожны дзесяты. Аналіз паказвае, што яны знаходзяцца ў горшай сітуацыі, чым грамадзяне, якія стаяць на ўліку па месцы жыхарства, непасрэдна ў райвыканкамах. У забеспячэнні жыллём сваіх супрацоўнікаў АН адстае на 2 гады ад гарвыканкама. На маю думку, праблема паддаецца вырашэнню, і прэзідыуму АНБ трэба дзейнічаць больш настойліва.**

**І іншыя параметры сацыяльнага плана не залічыш у актыў. Гэта тычыцца забеспячэння членаў нашага прафсаюза санаторна-курортнымі пуцёўкамі, арганізацыі гарачага харчавання. Дастаткова сказаць, што з-за вялікіх выдаткаў на ўтрыманне сеткі грамадскага харчавання давялося зачыніць пяць сталовых і чатыры буфеты ў розных падраздзяленнях АНБ.**

**Нарэшце такое. Заканадаўца ўдзяліў пэўную ўвагу праблемам рэгулявання ў сферы навукі, але практычна не кранута сацыяльная абарона навукоўцаў. Нічога не прадугледжвае ў гэтым накірунку і праект закону «Аб навукова-тэхнічнай дзейнасці». Ні сацыяльных гарантый, ні прынцыпаў фінансавання навуковых арганізацый.**

**Відавочна, што прававая база рэгулявання адносін у навуцы мае патрэбу ў канкрэтызацыі і пашырэнні. Сюды павінны ўвайсці пытанні аўтарскага права, падаткаабкладання, фінансавання, сацыяльных гарантый працы, парадку ажыццяўлення навуковай дзейнасці і г. д. Дзейны ўдзел у распрацоўцы такіх актаў мусіць узяць само навуковае супольніцтва, абапіраючыся на трывалую базу «Рэкамендацый «Аб статусе навукова-даследчых работнікаў», прынятых ЮНЕСКА яшчэ 20 гадоў таму.**

**Напрыканцы трэба падкрэсліць, што сёння сітуацыя зводзіцца да шэкспіраўскага пытання: быць ці не быць? Размова ідзе не пра часовае пагаршэнне, не пра асобныя пралікі. Размова пра лёс, існаванне Акадэміі навук Беларусі. Гэта пацвярджаюць і вынікі праведзенага намі сацыялагічнага апытання работнікаў АН.**

**Пытанні задаваў**
**Р. ЛЕВІН.**

# Эксперты шукаюць рэцэпты

**У НАШЫХ СЯБРОЎ**

**У лютым у Маскве адбыўся міжнародны семінар, прысвечаны праблеме «уцечкі мазгоў» з Расіі. Яго арганізавалі Міністэрства навукі і тэхнічнай палітыкі РФ, Камітэт па праблеме «уцечкі мазгоў» пры камісіі Расійскай Федэрацыі па справах ЮНЕСКА і рэгіянальнае бюро па навуцы і тэхналогіях для Еўропы. Прапануем чытачам некаторыя статыстычныя даныя, апублікаваныя ў штотыднёвіку «Пошук» (№ 7).**

У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў назіраецца значны скачкападобны рост эміграцыі з краіны.

Геаграфія знешняй міграцыі даволі шырокая. Яна ахоплівае практычна ўсе кантыненты. Аднак большая частка эмігрантаў накіроўваецца ў 4 асноўныя краіны. З агульнай колькасці пакінуўшых Расію да 1993 года 45 працэнтаў эмігрантаў паехалі ў Ізраіль, 37 — у Германію, 12 — у ЗША, 2 працэнты — у Грэцыю.

Найбольшай «навукаёмістасцю» характарызуецца паток эмігрантаў у ЗША. Па даных 1992 года сярод тых, хто туды выехаў — асобы з вышэйшай адукацыяй, 44 — служачыя. У ЗША за тры гады (1990—1993) эмігрыравала 4,5 тысячы вучоных.

Працэс адаптацыі расійскіх вучоных да работы на Захадзе адбываецца нераўнамерна. Навуковая эліта пераважна працаўладкоўваецца ва універсітэтах і іншых навуковых установах, сумяшчаючы выкладчыцкую дзейнасць з заняткамі навукай. Вынікі апытання сярод матэматыкаў і фізікаў-тэарэтыкаў (96 дактароў і 54 кандыдаты навук, якія працуюць у навуковых цэнтрах ЗША, Канады, Заходняй Еўропы, Аўстраліі) паказваюць, што больш 70 працэнтаў апытаных лёгка адаптаваліся да новай сітуацыі. Пераважная большасць з іх (90 працэнтаў) мяркуюць, што работа за мяжой у цэлым апраўдала іх чаканні.

Разам з тым, большая частка навуковых супрацоўнікаў, якія выехалі з Расіі па каналах этнічнай эміграцыі, была вымушана пайсці са сферы даследаванняў і распрацовак, і гэты пераход носіць неабарачальны характар. Доля «няўдачнікаў», па даных апытання, склала 3—5 працэнтаў, аднак па расійскіх вучоных-эмігрантах у цэлым яна значна вышэйшая.

Па меркаванню 50 апытаных кіраўнікоў вядучых замежных навуковых цэнтраў, праблемы адаптацыі расійскіх вучоных-эмігрантаў абумоўлены дрэнным веданнем замежных моў (75 працэнтаў апытаных), цяжкасцямі ў адносінах з калегамі (21 працэнт) і са студэнтамі (67 працэнтаў), няведаннем замежнай навуковай літаратуры (17 працэнтаў).

Па даных выбарачнага абследавання руху кадраў у дзесяці НДІ сталіцы (агульная колькасць вучоных — 3746 чалавек), праведзенага ў 1992 годзе, за 10 месяцаў з тых інстытутаў, якія абследаваліся, звольніўся і паехаў за мяжу адзін працэнт навуковых работнікаў (6,7 працэнта ўсіх, хто звольніўся), 60 працэнтаў тых, хто паехаў — вучоныя да 40 гадоў, 41 працэнт паехаўшых мелі ступень, у тым ліку 12 працэнтаў — доктарскія.

**Ацэнку ў адзін працэнт можна разглядаць як гранічнае значэнне паказчыка навуковай эміграцыі з Расіі за 1992 год. Пры гэтым доля знешняй міграцыі ў 1992 годзе не перавышае двух працэнтаў ад агульнага адтока кадраў з сферы НДВКР у іншыя сферы дзейнасці ўнутры Расіі і міграцыі па тэрыторыі былога СССР.**

Доля ад'язджаючых, якія працавалі ў галіне «навука і народная адукацыя», у цэлым па Расіі ў 1987—1992 г. складала 6 працэнтаў.

У ходзе сацыялагічнага апытання, якое было праведзена сярод 18 навуковых інстытутаў, 42 працэнты рэспандэнтаў указалі, што ўсур'ёз задумваюцца аб выездзе для работы за мяжу, хаця магчымасці для гэтага пакуль не маюць, 8 працэнтаў апытаных маюць намер выехаць у бліжэйшы час, 5 — разглядаюць пытанне аб сваім выездзе за мяжу таму, што ў іх асабіста з'явілася магчымасць для работы за мяжой. Не разглядаюць магчымасць для свайго выезду за мяжу толькі 23 працэнты апытаных.

Аналізуючы перспектывы вырашэння гэтай праблемы, 31 працэнт адказаўшых на пытанне аб «уцечцы мазгоў» указалі на тое, што фактары, якія абумоўліваюць адток вучоных з краіны, маюць глыбінны характар і не могуць быць ліквідаваны ў бліжэйшы час. Да агульнай прычыны цяжкасцей, якія перажывае акадэмічная навука, рэспандэнты аднеслі «цяперашні стан грамадства».

У якасці другой сукупнасці фактараў, якія абумоўліваюць адток вучоных за мяжу, рэспандэнты ўказваюць на нізкі ўзровень прэстыжу навукі, які склаўся ў грамадстве, на атмасферу ўразлівасці, неабароненасці, у якой аказалася навука, няяснасць для вучоных сваёй перспектывы. Прыгнятаюча ўздзейнічаюць на вучоных незапатрабаванасць іх творчых здольнасцей. 46 працэнтаў вучоных лічаць, што рэалізуюць свой навуковы патэнцыял поўнасцю, 31 працэнт — мяркуе, што выкарыстоўвае яго толькі напалову, 13 працэнтаў — у малой ступені.

Тэма аплаты працы навуковых супрацоўнікаў як адзін з вызначаючых фактараў, якія абумоўліваюць «уцечку мазгоў», закранаецца ў ходзе сацыялагічных апытанняў амаль усімі рэспандэнтамі. Абсалютная большасць вучоных мяркуе, што ўзровень аплаты навуковай працы неабходна ўзняць да міжнародных стандартаў, павысіўшы яго ў 10—30 разоў. У якасці важнейшага кроку ў гэтым напрамку прапаноўваецца пераход да кантрактнай сістэмы ў правядзенні даследаванняў.

# Што чакае нашу планету?

***Амерыканскі карабель шматразовага выкарыстання «Эндэвар» нясе на сваім борце камплект радарнага абсталявання, якое валодае здольнасцю даследаваць самыя недаступныя куткі свету і дапамагчы вучоным усвядоміць экалагічныя перамены на Зямлі.***

***На ім — камплект радарных прыбораў для сканіравання зямной паверхні і збора даных аб расліннасці, снежным покрыве, балоцістых мясцовасцях, вулканічнай дзейнасці і акіянскіх хвалях.***

***Шматчастотныя радарныя прыборы на борце «Эндэвара» здольныя рабіць замеры над любым рэгіёнам і ў любы час, незалежна ад умоў надвор'я. Радарныя хвалі могуць пранізваць воблачнасць і «бачыць» скрозь расліннасць, лёд і сухія пяскі.***

***«Гэта самы складаны з радараў, якія выкарыстоўваліся за ўсю гісторыю сусветных касмічных палётаў,— адзначыла навуковы супрацоўнік НАСА Мірнале Бэлтак. — Мы апрабуем яго работу ў космасе і правядзем інтэнсіўны аналіз сабраных даных». Асноўная ўвага будзе засяроджана на 19 так званых супераб'ектах, да якіх адносяцца Андскія горы ў Паўднёвай Амерыцы і пустыня Сахара ў Паўночнай Афрыцы. Палявыя даследаванні да, у час і пасля палёту будуць праводзіцца на супераб'ектах з асаблівай інтэнсіўнасцю.***

***Вынікі апрацоўкі і аналізу даных вучонымі ў інстытутах усяго свету будуць затым перададзены ў распараджэнне шырокай грамадскасці.***

## *КАЛІ МОВА ЛЕПШ ЗАСВОЙВАЕЦЦА?*

На працягу першых 15 гадоў жыцця чалавечага мозга, які праходзіць некалькі стадый у сваім развіцці, назіраюцца «крытычныя перыяды». Падчас іх пэўныя нервовыя клеткі, калі правільна апошнія стымуляваць, набываюць або страчваюць сувязі, уплываючыя на функцыі мозга.

Хелен Невіл (Інстытут Солха, штат Каліфорнія) і яе калегі вывучалі электрычную актыўнасць мозга людзей, якія нарадзіліся глухімі, і людзей з нармальным слыхам, што былі або гаворачымі на дзвюх мовах іміграитамі, або гаворачымі на адной мове амерыканцамі. У працэсе даследавання да галавы ўдзельнікаў гэтага эксперыменту падключалася спецыяльная апаратура, што дазваляла ацаніць правільнасць іхніх адказаў на пытанні пра тое, ці мелі сэнс фразы на англійскай мове, якія змяшчалі няправільныя словы або скажоныя граматычныя структуры.

Даследчыкі ўстанавілі, што кожны чалавек можа навучыцца правільнаму прымяненню назоўнікаў і дзеясловаў у дзіцячыя гады. Аднак крытычны перыяд для вывучэння граматыкі значна карацейшы за час дзяцінства, і калі дзіця вывучае мову ў гэты перыяд, дык у яго ў левым паўшар'і мозга развіваецца асобная сістэма апрацоўкі інфармацыі пра граматычныя правілы. Даследчыкі назіралі адпаведную электрычную актыўнасць у галаўным мозге гаворачых на адной мове і гаворачых на дзвюх мовах людзей, якія прыехалі ў ЗША да 3-гадовага ўзросту. Галаўны мозг глухіх, якія звычайна не пачынаюць вывучэнне граматыкі да навучання чытанню ў пачатковай школе, і мозг імігрантаў, якія прыехалі з ЗША ва ўзросце старэй за 3 гады, не праяўляе актыўнасці ў той частцы, што знітавана з рэакцыяй на граматыку англійскай мовы.

Невіл лічыць, што вывучэнне другой мовы неабходна пачынаць ва ўзросце да 11 гадоў, калі ставіцца мэта свабоднага валодання гэтай мовай.

ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## ПАДТРЫМАНА ЎРАДАМ

*Прэзідыум Саўміна заслухаў даклад дырэктара акадэмічнага навуковага комплексу «Інстытут цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава», акадэміка АН Беларусі А. Мартыненкі аб найбольш перспектыўных напрамках развіцця энергетыкі рэспублікі. Асноўныя палажэнні даклада ўрадам падтрыманы, дадзены канкрэтныя даручэнні па прадаўжэнню работы над гэтай важнейшай праблемай і практычнаму напаўненню тэарэтычных распрацовак беларускіх вучоных.*

*Служба інфармацыі ўрада Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.*

## Выдавецтва дорыць свята

Нядаўна ў Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная выхаду першага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», энцыклапедычнага даведніка «Археалогія і нумізматыка Беларусі» і кнігі М. В. Доўнар-Запольскага «Гісторыя Беларусі». Усе яны выйшлі ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя».

Выступаючы перад прысутнымі, галоўны рэдактар «БЭ» Барыс Іванавіч Сачанка расказаў пра тыя праблемы, з якімі сёння даводзіцца працаваць выдавецтву. Але нягледзячы на ўсе цяжкасці, калектыў «БЭ» працуе самааддана. І кнігі, якія ён выпускае, яскравае таму пацверджанне.

Дырэктар Інстытута гісторыі АНБ М. П. Касцюк пра выдадзеныя кнігі сказаў, што яны сведчаць аб тым, што мы пачалі ствараць сапраўдную гісторыю Бацькаўшчыны. Успрынялі іх неадналькава. І гэта натуральна. Тым, каму не хацелася б бачыць Беларусь незалежнай, не падабаецца і пераглядз асобных старонак яе гісторыі. Таму гэтыя кнігі, зазначыў Міхаіл Паўлавіч, у большай ступені належаць новаму пакаленню беларусаў...

З добрымі словамі ў адрас аўтараў кніг, выдавецтва «БЭ» выступілі госці вечарыны. Мне б хацелася прыгадаць словы доктара гістарычных навук Г. В. Штыхава: «Народ, які мае такую гісторыю, не можа загінуць. І наш народ пабудуе жыццё, дастойнае яго, якое ён выпакутаваў сваёй гісторыяй».

Алесь ЮРЫН.

# АСНОЎНАЯ МЭТА ААН—ПАЛЯПШЭННЕ ЎСЯГО СВЕТУ

*(ВЫСТУПЛЕННЕ ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН БУТРАСА БУТРАСА ГАЛІ Ў АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ 6 КРАСАВІКА 1994 г.)*

Пан прэзідэнт, дамы і панове! Я рады магчымасці быць сёння з вамі. Для мяне гэта вялікі гонар, таму што большую частку свайго жыцця я правёў у навуковым асяроддзі. І паколькі я з'яўляюся членам Беларускай Акадэміі, дазвольце мне падзяліцца з вамі некаторымі меркаваннямі адносна ролі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у новым свеце.

Большую частку гэтага стагоддзя Рэспубліка Беларусь знаходзілася пад уплывам геапалітычных змяненняў. Другая сусветная вайна і затым халодная вайна з'явіліся цяжкім выпрабаваннем для Беларусі.

Неабходнасць стварэння механізма для прадухілення вайны была з гатоўнасцю ўспрынята ў Мінску. І ваша краіна з'явілася сузаснавальнікам ААН.

Сёння Беларусь падтрымлівае меры, накіраваныя на ўмацаванне міру. Беларусь адстойвае ідэю ядзернага раззбраення. У рамках Канферэнцыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе Беларусь адыгрывае важную ролю на рэгіянальным узроўні.

Я звяртаюся да вас як Генеральны сакратар сусветнай арганізацыі. Тое, да чаго я імкнуўся — гэта ваша разуменне і падтрымка. ААН павінна мець чалавечыя і фінансавыя рэсурсы, неабходныя для выканання сваіх міратворчых функцый. Але, апрача іх, яна адчувае патрэбу ў палітычнай волі народаў і дзяржаў свету.

Статут ААН — вялікае дасягненне для чалавецтва. Яго стваральнікі былі поўныя рашучасці прадухіліць вяртанне вайны і агрэсіі ў свеце, бо разумелі, што мір і бяспека павінны будавацца на трывалай грамадскай і эканамічнай аснове. Яны бачылі, што моцныя і стабільныя грамадствы існуюць толькі там, дзе падтрымліваецца дэмакратыя і паважаюцца правы чалавека.

Аднак гэта бачанне было адкладзена ў бок. На працягу двух пакаленняў Статут ААН фактычна ігнараваўся. Ключавыя пытанні міжнароднай бяспекі вырашаліся па-за яе межамі. Ідэалагічнае саперніцтва скажала справу развіцця. Вялікія мэты Статута заставаліся нерэалізаванымі, бо арганізацыя адчувала на сабе адсутнасць даверу.

Нягледзячы на ўсё гэта, ААН былі зроблены важныя захады па шляху прагрэсу. Яны садзейнічалі працэсу дэкаланізацыі. З'явілася мноства новых дзяржаў, і Арганізацыя Аб'яднаных Нацый стала іх трыбунай. Механізм падтрымання міру быў створаны гэтай арганізацыяй і праслужыў ён некалькі дзесяцігоддзяў.

Пасля заканчэння халоднай вайны свет нанава ўбачыў Статут ААН. Мы сталі сведкамі дзіўнага канфлікту. Эканамічныя, сацыяльныя і гуманітарныя праблемы не толькі не знікалі, але і пагаршаліся. Раптоўна арганізацыя стала найлепшым інструментам, здольным іх вырашыць.

Здавалася, мір усведаміў, што менавіта дасталося яму ў спадчыну. Статут сусветнай арганізацыі гаварыў аб спадзяваннях стагоддзя ў пошуках новага і ўсеахопнага прагрэсу. Ён прапанаваў пры дапамозе арыгінальнага бачання шлях да ўмацавання міру і бяспекі, абароны правоў чалавека і дасягнення «сацыяльнага прагрэсу і лепшых умоў жыцця ў межах вялікай свабоды».

Такім чынам, новы перыяд у жыцці арганізацыі пачаўся толькі некалькі гадоў таму. Аднойчы адштурхнутая ў бок, яна раптам апынулася ў цэнтры сусветных спраў. Адбыўся выбух патрабаванняў і зваротаў да ААН. Пачалося другое пакаленне палітыкі падтрымання ёю міру. Па колькасці, якасці, кошту і працягласці маштаб дзеянняў быў беспрэцэдэнтным. У Камбоджы, Самалі і былой Югаславіі ААН не толькі выконвала функцыі назіральніка за тым, ці прытрымліваюцца варагуючыя бакі ўмоў ужо заключанага паміж імі міру, але і займалася іншымі справамі: прэвентыўнай дыпламатыяй, умацаваннем міру і г. д.

На працягу першых сарака гадоў свайго існавання ААН прадпрыняла 13 аперацый па падтрыманню міру. А ў перыяд з 1988 г. па цяперашні час пачалося правядзенне большай колькасці аперацый, чым за ўсе сорак папярэдніх гадоў. Зараз ААН праводзіць па ўсяму свету 17 аперацый па падтрыманню міру. У іх удзельнічаюць звыш 70 тысяч грамадзянскіх і ваенных асоб з 70 краін. Іх утрыманне ў 1992 годзе склала прыкладна 1,4 млрд. долараў ЗША. У гэтым годзе яно дасягне 3,2 мільярда.

Другое пакаленне палітыкі падтрымання міру ААН мае не толькі ваеннае, але і палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае, гуманітарнае значэнне, яно звязана таксама і з абаронай навакольнага асяроддзя.

Новыя дзеянні, накіраваныя на захаванне міру, небяспечныя. З 1945 па 1992 гады 853 чалавекі аддалі свае жыцці за мір. У перыяд жа толькі з 1992 года па люты 1994-га ўжо загінулі 215 чалавек.

Развіццё, якое заўсёды лічылася выключна эканамічным пытаннем, зараз прызнаецца як шматбаковая праблема. З'явіліся новыя канцэпцыі міру, развіцця эканомікі, абароны навакольнага асяроддзя, грамадства і дэмакратыі. Вялікае мноства фактараў зараз прыцягваецца для рашэння гэтай праблемы.

У апошні час распрацоўваецца новы, цэльны падыход да дзейнасці ААН, які ўключае ў сябе замацаванне глабальнай бяспекі і ўстойлівае развіццё. Рэзка павялічылася колькасць праблем, з якімі даводзіцца сутыкацца пры правядзенні аперацый па пастаўках гуманітарнай дапамогі ААН. Тры асноўныя арганізацыі ААН, што садзейнічаюць ў выдзяленні гуманітарнай дапамогі — Дзіцячы фонд ААН, Сусветная харчовая праграма і Упраўленне Вярхоўнага Камісара ААН па справах бежанцаў — павялічылі свае бюджэты з 278 мільёнаў долараў у 1989 годзе да двух мільярдаў у 1992 годзе.

Увесь свет звяртаецца да ААН для вырашэння пытанняў абароны навакольнага асяроддзя, правоў чалавека, перанасялення, становішча жанчын і сацыяльнага развіцця. Па ўсіх гэтых праблемах на працягу бягучага дзесяцігоддзя ААН праводзіць рэгіянальныя Міжнародныя канферэнцыі.

У цяперашні час да сусветнай арганізацыі звяртаюцца часцей, чым за ўсю папярэднюю гісторыю яе існавання. Паклаўшы на яе плечы шмат новых задач, увесь свет задаецца пытаннем: «А ці спраўляецца ААН са сваёй працай?»

У ёй налічваецца 184 члены. Кожная дзяржава-член мае ў Генеральнай Асамблеі свой голас. У Савеце Бяспекі, што адказвае за падтрыманне міру, маецца пяць пастаянных членаў і дзесяць непастаянных, якія выбіраюцца па прынцыпу ратацыі. Прычым, кожны пастаянны член мае ў Савеце Бяспекі права вета.

Удзел у працы ААН разглядаецца некаторымі дзяржавамі як дэманстрацыя сваёй нацыянальнай цэласнасці, магчымасць азнаёміць увесь свет са сваёй сістэмай каштоўнасцей і заявіць аб сваім суверэнітэце. У той жа час некаторыя дзяржавы традыцыйна стаяць некалькі ў баку ад яе дзейнасці.

Ваенны персанал для нясення службы ў аперацыях па падтрыманню міру павінен прадстаўляцца добраахвотна дзяржавамі-членамі ААН. Зараз толькі каля 70 з іх (менш паловы складу ААН) удзельнічаюць у такіх аперацыях.

Фінансаванне дзейнасці арганізацыі забяспечваецца пры дапамозе сістэмы ўзгодненых узносаў. Іх аб'ём вызначаецца спецыяльным пагадненнем. У асноўным ён залежыць ад памераў эканомікі дзяржавы.

Я ведаю, што некаторыя краіны, якія стаяць на пераходным этапе (такія, як Беларусь), сутыкаюцца з цяжкасцямі пры выплаце ўзносаў. І я высока цаню тыя намаганні, якія ваша краіна прадпрымае дзеля своечасовай выплаты ўзносаў.

У гэтым годзе я папрасіў у Генеральнай Асамблеі фінансаванне для рэгулярнага бюджэту ў памеры 2,7 мільярда долараў ЗША на 1994—1995 гады. Краіна, што ўносіць самы буйны ўзнос,— ЗША,— будзе плаціць каля 700 мільёнаў, у той час як самыя маленькія дзяржавы (Беліз ці Свазіленд) заплацяць прыкладна па 250 тысяч кожная.

Гэта так званы рэгулярны бюджэт. Другая дзейнасць ААН, як, напрыклад, аперацыі па падтрыманню міру, аказанню гуманітарнай дапамогі альбо дапамогі ў развіцці, фінансуецца асобна.

Існуючая сістэма гарантуе, што ўсе дзяржавы-члены ААН уносяць справядлівы ўклад у кошт асноўнай дзейнасці сістэмы, што пастаянныя члены Савета Бяспекі распараджаюцца асобай доляй расходаў на правядзенне аперацый па падтрыманню міру, што акрамя гэтых відаў расходаў дзяржавы-члены ААН свабодныя падтрымліваць тыя віды дзейнасці, якія закранаюць іх уласныя інтарэсы.

Сама сістэма фінансавання дзейнасці ААН патрабуе рэфармавання. Нядаўна Фонд Форда арганізаваў рабочую групу, якая займаецца вывучэннем сістэмы фінансаў ААН. Яна працуе пад кіраўніцтвам былога Старшыні Федэральнага Рэзервовага банка ЗША Пола Волкера і былога намесніка ўпраўляючага Банкам Японіі Шыюра Агата. Група ўказала на «неадпаведнасць паміж патрабаваннямі, што прад'яўляюцца да дзейнасці ААН, і абмежаванасцю, нетрывалаўсцю яе фінансавай базы».

Рэалізуючы патрэбнае кіраванне дзейнасці і фінансавую эканомію, ААН павінна мець дадатковыя рэсурсы — мізэрную суму ў параўнанні з расходамі дзяржаў на ўзбраенне альбо на барацьбу з незаконным гандлем наркотыкамі,— каб служыць вялікім мэтам, якія вызначаны Статутам арганізацыі.

Пасля заканчэння халоднай вайны ААН стала ахвярай празмернага даверу з боку грамадскасці. Гэтыя занадта вялікія чаканні, якія не суадносяцца з нашымі магчымасцямі, зараз саступілі месца, і напэўна непазбежна, настрою страты ілюзій. Гэта дачасна. Яшчэ рана спісваць ААН. Свет не можа сабе дазволіць гэта зрабіць.

Асноўная задача сёння — адаптацыя: змяніцца дзеля таго, каб быць гатовымі даць адпор новым пагрозам, дзе гэта неабходна, але і захаваць пры гэтым салідарнасць і абавязкі, ускладзеныя на нас гісторыяй.

Міжнародны мір і бяспека падвяргаюцца пастаяннай пагрозе. Але сама прырода пагрозы змянілася. Суверэнасць дзяржаў падвяргаецца выпрабаванням не столькі з боку нейкіх звышдзяржаў, колькі ўнутранымі праблемамі гэтых краін.

Гісторыя ідзе наперад. Народы і краіны імкнуцца знайсці, часта пры дапамозе насілля, тую гісторыю, якая была перапынена. Сёння парадак і мір знаходзяцца пад пагрозай у многіх дзяржавах большай, чым у часы халоднай вайны.

Новыя задачы — цяжкавырашаемыя. Раней былі тэорыя «даміно» і дактрыны стрымлівання. Сотні тамоў былі напісаны аб ядзерным стрымліванні. Новыя тэорыі мы пакуль яшчэ не распрацавалі. Адзін палкаводзец не можа пагражаць усяму свету, але група такіх палкаводцаў можа пагражаць усім структурам міжнароднай бяспекі з такім жа поспехам, як і любая іншая глабальная змова. Адзінае сёння бясспрэчна: умацаванне міжнароднага міру і бяспекі ў новай сітуацыі не можа быць дасягнута па-за межамі міжнароднага супрацоўніцтва.

У мінулым найбольш каштоўнай якасцю ААН лічыўся яе маральны аўтарытэт, а не выканаўчая здольнасць. Галоўным чынам, ён праяўляў сябе ў цяжкавырашальных праблемах міжнароднай палітыкі. Яго адзіным інструментам было перакананне.

Калі ААН выступала ў якасці рытарычнай аддушыны для змякчэння ў міжнародных спрэчках, людзі ведалі, што ніякіх прыказаў не будзе аддадзена батальёнам.

Сённяшнія мандаты, дадзеныя ААН для падтрымання міру, па садзейнічанню развіццю, ахове правоў чалавека і сацыяльнай справядлівасці, далёка выходзяць за традыцыйныя замацаваныя за ёй абавязкі.

Зараз шмат што змянілася. ААН, як і Рэспубліка Беларусь, знаходзіцца на пераходным этапе. Яна дзейнічае ўжо ў новым геапалітычным асяроддзі. Яе маштаб дзейнасці значна ўзрос. Тое, што трэба ААН для разумення і падтрымкі, знаходзіцца на грані зрыву.

Новая ААН, таксама як і старая — гэта тое, чым яна заўсёды была: палітычны інструмент краін-членаў ААН. Толькі ўсе 184 дзяржавы-члены маюць уладуператвараць сусветную арганізацыю ў сапраўды эфектыўны інструмент.

ААН — гэта асацыяцыя суверэнных дзяржаў, гэта іх інструмент. Але пачатковыя словы яе Статута наступныя: «Мы, народы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый...»

Народы для ААН заўсёды мелі асобы статус. Менавіта яны павінны атрымліваць усе даброты ад дзейнасці арганізацыі, менавіта для іх краіны-члены ААН дзейнічаюць у даверы адзін да аднаго. ААН з'яўляецца асацыяцыяй суверэнных дзяржаў. Але яе мэта — паляпшэнне ўсяго свету на шчасце ўсіх народаў.

Бясцэннае дасягненне Статута ААН, яе зборная сіла, універсальнае членства і непераўзыдзены вопыт, сувязі і ўнутранае ўпарадкаванне робяць арганізацыю адзіным глабальным інструментам для вырашэння сусветных праблем. Таму давайце збяром нашу палітычную волю для сумленнай працы па завяршэнню працэса перамен.

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

# КАЛІ ПРЫЙШЛА ВАЙНЫ НАВАЛА

## (ПА МАТЭРЫЯЛАХ МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ АН БЕЛАРУСІ)

(Заканчэнне. Пачатак у № 15)

Перад гэтымі людзьмі, чые фатаграфіі ў музеі (і не толькі перад імі, а і ўсімі абаронцамі краіны падчас Вялікай Айчыннай) не грэх зняць шапкі і пакланіцца ў пояс. Бо тры-чатыры гады хадзілі яны па вастрыю ляза, а потым без перадыху кінуліся ў гарніла найцяжэйшага ўзнаўлення роднага краю.

Мне даводзілася сустракацца з акадэмікам Мікалаем Апанасавічам Дарожкіным у бытнасць яго дырэктарам НДІ бульбаводства і плодаагародніцтва. Гэта быў тады ўжо немалады паважны чалавек, абцяжараны, што называецца, вучонымі ступенямі і званнямі, вядомы ў рэспубліцы арганізатар сельскагаспадарчай навукі і практыкі.

І раптам на фота ў музеі бачу вельмі знаёмы, але нечакана малады твар. Дарожкін і не Дарожкін. Так, сапраўды ён і не ён. Бо гэты твар належыць зусім не прафесару, а толькі яшчэ параўнальна нядаўна прапісанаму ў навуцы. Належыць чалавеку, пра якога нават не гаворыцца, што ён навуковец. Паведамляецца толькі, што ён удзельнік мінскага партыйнага падполля.

Ды і як ён, камуніст з 1927 года, мог ім не быць! Як мог не быць партызанскім разведчыкам. І не аднаго, а двух атрадаў — «Бальшавік» і «Мсціўца». Яму ўдалося выкрасці ў акупантаў падрыхтаваны ўжо імі да выдання зборнік навуковых работ. Захопнікі ўскладалі немалыя надзеі на выпуск кнігі, якая мусіла пусціць пыл у вочы, сведчыць пра нібыта вялікі нямецкі клопат аб беларускай навукы. Вось, маўляў, як цэняць акупацыйныя ўлады работу беларускіх навукоўцаў, вось якія ўмовы ствараюць ім, а яны, у сваю чаргу, аддана служаць Гітлеру. Такім чынам, гэтая задума фашыстаў была сарвана.

У многім дзякуючы М. Дарожкіну была ўратавана ад знішчэння частка архіву АН.

Ваенны лёс прыхільна паставіўся і да Сяргея Васільевіча Маркевіча. Ён вывеў яго з крутых, смяротна небяспечных партызанскіх сцежак на шырокую дарогу навуковай дзейнасці. Пасля вайны Сяргей Маркевіч стаў доктарам хімічных навук. А ў вайну ўступаў аспірантам Інстытута хіміі АН. І праявіў сябе не толькі бліскучым разведчыкам (нездарма ж даверылі яму пост намесніка камандзіра партызанскай брыгады па разведцы), ён браў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні ўсіх баявых аперацый свайго злучэння), быў узнагароджаны высокім ордэнам Чырвонага Сцяга, не лічачы іншых дзяржаўных адзнак. Яго можна здагадацца па вершу ага баявога таварыша В. Зінкевіча «Спой нам, Серёжа», выстаўленаму ў музеі і прысвечанаму Маркевічу, камандзір разведкі меў спявацкі талент.

Вельмі арганічна ўпісваецца ў ваенную экспазіцыю музея аповед (назавем яго гэтак) не пра ўзброеныя дзеянні народных мсціўцаў, не пра адчайныя баі з чужынцамі, а пра іх, гэтак мовіць, палітычныя акцыі, не менш рызыкоўныя за схваткі з прымяненнем зброі, за напады на непрыяцельскія гарнізоны.

...Фотакопія матэрыяла «Два гады ў акупіраваным Мінску», апублікаванага ў адной з тагачасных газет (на жаль, не пазначана, у якой). Непасрэдныя сведкі таго, пра што гаворыцца ў карэспандэнцыі, прафесары М. А. Прыляжаеў і І. А. Вятохін паведалі грамадскасці краіны пра так званы «новы парадак», усталяваны гітлераўцамі ў сталіцы Беларусі, дый на ўсёй рэспубліцы. Пра зверствы і катаванні мірных жыхароў, пра голад і галечу, руіны і нечалавечыя законы, прызапашаныя фашыстамі для «нелюдзяў з усходніх тэрыторый».

Ва ўступе да публікацыі сказана: «Дзякуючы самааддананай дапамозе доблесных партызанаў Беларусі два буйныя навуковыя дзеячы — праваддзейны член Беларускай Акадэміі навук і член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР Мікалай Аляксандравіч Прыляжаеў і дырэктар Мінскага інстытута клінічнай і тэарэтычнай медыцыны прафесар Іван Андрэевіч Вятохін разам са сваімі сем'ямі выбраліся з акупіраванага фашыстамі Мінска.

Два гады пражылі яны пад нямецкім прыгнётам і былі сведкамі тых жахаў, здзекаў і разбурэнняў, якія прынеслі на вольную зямлю фашысцкія захопнікі. Праўдзівы, просты аповед пра перажытае дае поўную карціну крывавага кашмару, цынічна названага гітлераўцамі «новы парадак».

Не будзем зараз удавацца ў падрабязнасці рызыкоўнай аперацыі па вывазу двух навукоўцаў і іх сем'яў з заняволенай беларускай сталіцы з пільнымі эсэсаўска-паліцэйскімі кардонамі на яе ўскраінах. Кожнаму зразумела, чаго варта тое было. Дададзім толькі, што гэта не адзіная такая акцыя. Можна, напрыклад, прыгадаць падобную аперацыю з прафесарамі Нікольскім і Краўцовым. Усё гэта дастойна асобнай публікацыі. Хочацца сказаць адно, больш правільна, адказаць на пытанне: навошта гэта было патрэбна?

А таму было патрэбна, што, па-першае, навукоўцы-патрыёты самі таго жадалі, бо працаваць пад пільным вокам варожых выведнікаў каму хочацца? Па-другое, і іншыя ўмовы для працы былі вельмі абмежаваныя. Па-трэцяе, але не апошняе па значэнню, неабходна было развеяць гітлераўскі міф пра нястомны клопат германскай фашысцкай дзяржавы аб развіцці навукі і аб навукоўцах. Нарэшце, расказаць праўду пра рэжым, усталяваны на захопленых савецкіх землях і ўбачаны на ўласныя вочы.

Многае можа, агледзеўшы ваенную частку выставы, пра якую тут сказана далёка не ўсё, уявіць, спазнаць непрадузяты наведвальнік. Слаўныя старонкі барацьбы беларускага народа за сваё вызваленне ад фашысцкай навалы яскрава паўстаюць праз удзел у вайне супрацоўнікаў Акадэміі навук рэспублікі. Пабываўшы тут, мы разумеем, што іх уклад не толькі ў навуку беларускага краю, але і ў барацьбу рэспублікі-партызанкі, як справядліва Беларусь найменавалі, падчас усенароднай барацьбы супраць фашызму — неацэнны.

Р. ЛЕВІН.

Р. S. Напрыканцы хацелася б выказаць пажаданне работнікам музея: напярэдадні святкавання 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў зрабіць больш поўным даведачны біяграфічны матэрыял да фотапартрэтаў, забяспечыўшы іх расшыфроўкай ініцыялаў, данымі пра іх даваенную і пасляваенную працоўную дзейнасць. Думаецца, што ажыццявіць гэта (а можа, і штосьці яшчэ) ім па сілах.

# Змрочны прагноз

*Судны дзень можа прыйсці ў 90-х гадах XX стагоддзя. Гэты змрочны прагноз змяшчаецца ў штогадовым выданні «Становішча ў свеце: 1994», падрыхтаваным «мазгавым цэнтрам» па даследаванню глабальных экалагічных праблем «Уорлдуотч».*

У апошнія гады XX стагоддзя чалавецтва сутыкаецца з мноствам праблем, піша прэзідэнт «Уорлдуотч», відны эксперт у галіне экалогіі Лестэр Браўн. «Самая злабадзённая з іх — скарачэнне на душу насельніцтва ў свеце вытворчасці асноўнага віду харчавання — збожжа. Гэты працэс ідзе ўжо на працягу амаль дзесяцігоддзя. Калі небяспечная тэндэнцыя захаваецца, то гэта можа прывесці да палітычнай нестабільнасці і распаду грамадства «падобна да таго, як гэта адбываецца сёння ў Самалі, Судане і на Гаіці».

У ліку мажлівых змрочных сцэнарыяў амерыканскі навуковец прадбачыць і такі, пры якім голад прымусіць масы людзей рынуцца цераз дзяржаўныя граніцы ў пошуках прадуктаў. Гэтыя праблемы, лічыць Браўн, паглынуць увагу дзяржаўных дзеячоў, прывядуць да пераацэнкі нацыянальных прыярытэтаў і будуць вызначаць сусветную палітыку.

Сведчаннем гэтага з'яўляюцца статыстычныя даныя, якія прыводзяцца ў даследаванні. У перыяд паміж 1950 і 1984 гадамі вытворчасць збожжа ў свеце з разліку на душу насельніцтва ўзрасла на 40 працэнтаў. Аднак ужо тады, калі ўлічваць дэмаграфічны фактар, захоўвалася толькі кволая раўнавага: колькасць насельніцтва на планеце хутка павялічвалася, а рост асноўнага віду харчавання заставаўся мінімальным. Але затым, у перыяд з 1984 па 1993 год вытворчасць збожжа на душу насельніцтва ў свеце скарацілася на 11 працэнтаў.

Разрыў паміж дэмаграфічным ростам і вытворчасцю прадуктаў харчавання ў свеце, падкрэсліваецца ў даследаванні, будзе набываць усё большыя маштабы. У перыяд з 1950 па 1990 год насельніцтва штогадова павялічвалася на 70 мільёнаў чалавек, а з 1990 па 2030 год, згодна з ацэнкамі спецыялістаў, яго рост у гадавым вылічэнні дасягне 90 мільёнаў. Павелічэнне пасяўных плошчаў у свеце адбывалася галоўным чынам за кошт Злучаных Штатаў і былога Савецкага Саюза, аднак у абедзвюх дзяржавах сельскагаспадарчыя ўгоддзі падвергліся моцнай эрозіі, і значная іх частка аказалася непрыгоднай для рэкультывацыі, зазначае «Уорлдуотч». Гэты фактар і скарачэнне дзяржаўнага субсідзіравання сельскагаспадарчага сектара ў Расіі і іншых былых савецкіх рэспубліках прывёў, у сваю чаргу, да скарачэння спажывання збожжа.

Мяркуецца, што ў 2030 годзе ў свеце будзе сабрана 2,2 мільярда тон збожжавых. Лічба, на першы погляд, унушальная. Але колькі прыйдзецца на душу насельніцтва? Гэта залежыць ад нормы спажывання. Калі браць за падставу амерыканскую дыету — 800 кілаграмаў у год на чалавека, дык гэтага ўраджаю дастаткова будзе, каб накарміць 2 мільярды 750 мільёнаў чалавек — прыблізна палову сённяшніх жыхароў планеты.

Прытрымліваючыся больш сціплай італьянскай дыеты ў 1993 годзе, можна было б накарміць усіх зямлян. Але калі ўлічыць, што ў 2030 годзе насельніцтва планеты складзе прыблізна 8,9 мільярда чалавек, дык «сярэднестатыстычнае» спажыванне на душу насельніцтва акажацца значна ніжэй узроўню, дасягнутага цяпер у Кітаі, і наблізіцца да сённяшняга ўзроўню Індыі. Праўда, падобная статыстыка існуе толькі на паперы.

Стаўка на тое, што ў бліжэйшы час будзе дасягнуты істотны прагрэс у вытворчасці прадуктаў у свеце, дзякуючы вынаходству нейкіх новых «тэхналагічных метадаў», нерэалістычная, лічаць ва «Уорлдуотч». Выйсце з прадуктовага крызісу тут бачаць у іншым — у запавольванні тэмпаў росту народанасельніцтва, планаванні сям'і, ліквідацыі непісьменнасці ў свеце.

(«НГ», пераклад з рускай)



*На скрыжаванні.*

## СМОГ «З'ЯДАЕ» ПРАДУКТЫ

Абапіраючыся на вынікі, атрыманыя з дапамогай камп'ютэрных мадэлей, вучоныя з Тэхналагічнага інстытута штата Джорджыя прадказваюць, што далейшае забруджванне паветра ў выніку спальвання каменнага вугалю і нафты можа прывесці да значнага скарачэння вытворчасці прадуктаў харчавання.

Уільям Камейдзес, загадчык кафедры і кіраўнік навуковай праграмы, паведаміў, што фотахімічны смог складаецца з сумесі шкодных газаў і часцінак паверхні зямлі і аказвае разбуральнае ўздзеянне на ўраджай.

«Згодна з нашымі падлікамі,— гаворыць ён,— зараз ад 9 да 35 працэнтаў сусветнага ўраджаю злакаў у перыяд паспявання падвергнуты ўплыву канцэнтрацыі азону, блізкай да крытычнай. Гэта значыць, што страты сусветнага ўраджаю злакаў і іншых культур складаюць некалькі працэнтаў у год».

У будучым яны хутчэй за ўсё павялічацца. Устаноўлена, што да 2025 года ад 30 да 75 працэнтаў сусветнага ўраджаю злакаў будуць вырошчацца пры канцэнтрацыі азону вышэй крытычнай.

## ВАКАНСІІ

Институт электроники объявляет конкурс на замещение вакантных должностей заведующих лабораториями:

— вакуумной микроэлектроники;

— электрических и магнитных измерений;

— автоматизации измерений;

— оптических регистрирующих сред;

— полупроводниковой оптоэлектроники;

— фоторезистивных пленок.

Срок конкурса — 1 месяц со дня опубликования объявления.

Адрес института: 220841, Минск, Логойский тракт, 22.

Телефон для справок: 65-61-54.

* * *

Институт проблем энергетики Академии наук Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантных должностей заведующего лабораторией по специальности «Ядерные энергетические установки», ведущего научного сотрудника по специальности «Радиохимия», старшего научного сотрудника по специальности «Техника физического эксперимента, физика приборов, автоматизация физических исследований», старшего научного сотрудника по специальности «Радиационная химия».

Телефоны для справок: 46-78-01, 46-75-15.

«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 27.04.94 г.
Зак. 1027
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123